# ПАГОНЯ

STOWARZYSZENIE MUZEUM
OSRODEK KULTURY BIAŁORUSKIEJ
W HAJNOWCE
17-200 Hajnówka ul. 3 Maja 42
tel. (085) 682 28 80
BIBLIOTEKA
Nr inwent. ...

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК  ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 29 (43)  17—23 верасьня 1993 г.  Кошт 10 рублёў

«Пацёмкінская вёска» **У ЦЭНТРЫ ВІЛЬНІ**

Інструкцыя **ДЛЯ АМЭРЫКАНСКАГА ЖАЎНЕРА.** Перадрук.

**ВІТАЎТ І ЯГАЙЛА.** Гістарычны нарыс.

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

# Як засудзілі спадара Жыня

«Пагоня» у мінулым нумары паведамляла аб Сьвяце беларускай вайсковай славы ў Горадні. Як вядома, гарвыканкам адмовіў ініцыятыўнай групе (Гарадзенская рада БНФ «Адраджэньне») у правядзеньні мітынгу з гэтай нагоды, бо ўрад заранёў абвясьціў, што ўсякія спробы прадставіць дзень 8 верасьня як нацыянальнае сьвята супярэчыць рашэньню Вярхоўнага Савету рэспублікі, які зацьвердзіў пералік сьвятаў і памятных датаў, што адзначаюцца беларускім народам, бо быццам дастаткова няпэўнай выглядае сама трактоўка бітвы пад Воршай 8 верасьня 1514 года, ды няма ніякіх падстаў выкарыстоўваць гэту дату для абвастрэньня адносін паміж двума народамі...

Аднак, нягледзячы на ўсе гэтыя штучныя забароны, сьвята ў Горадні адбылося, як адбылося яно ў Менску і іншых гарадах Беларусі. І, дарэчы, бралі ў ім удзел ня толькі беларусы, але й рускія, і палякі, габрэі, нават мой знаёмы армянін. Бралі ўдзел усе, хто сёньня адчувае й разумее, у каго баліць душа за Бацькаўшчыну, за беларускі народ, за нашу дзяржаўнасьць. Нягледзячы на ўсе цяжкасьці й перашкоды, сьвята ў Горадні атрымалася, без усякага парушэньня парадку й дарожнага руху.

Толькі ўжо назаўтра пачаліся цяжкія будні для старшыні рады Кастуся Жыня. Яго ўжо раптам зранку шукае міліцыя. Ужо быў складзены й падпісаны пратакол, у якім у сувязі з парушэньнем артыкулу № 166 адміністрацыйнага Кодэксу інкрымінуецца віна К. Жыню ў правядзеньні насанкцыянаванага мітынгу. Давёў да ведама «парушальніку» намесьнік начальніка Ленінскага РАУС Горадні маёр Конкін.

Жынь адмовіўся падпісваць пратакол. Па-першае, таму, што рашэньне аб правядзеньні сьвяткаваньняў прымала Рада, а ня ён. А па-другое, што дакумэнт быў складзены парасейску, а не на дзяржаўнай мове.

Аднак у РБ усё робіцца проста. Пад пратаколам зрабілі допіс: адмовіўся падпісваць таму, што складзены па-расейску. І Жыня ў суправаджэньні старэйшага лейтэнанта службовым аўтамабілем накіроўваюць адразу ў Ленінскі суд Горадні.

Дзяжурны суддзя доўга разглядаў складзены пратакол, зьдзіўляўся незвычайнай справе, задаваў розныя пытаньні, урэшце, ня ўцяміўшы, напэўна, справы, перапытваў у міліцыянта, хто складаў гэтую паперу й чаму менавіта на Жыня. А ўрэшце пацікавіўся, якое гэта сьвята Жынь ладзіў, і дзе яно адзначалася ў гісторыі. Падсудны добрых дзесяць хвілін вымушаны быў чытаць суддзі лекцыю па гісторыі Беларусі, а цікаўная сакратарка наважвалася ўдакладняць, таксама для пратаколу,— «... в каком году эта битва была?»

Наступіла хвіліна роздуму, маўчаньне, як ля помніка загінуўшым воінам на заўчарашнім сьвяце, якое ладзіў небарака Жынь.

Нарэшце суддзя аб´яўляе: «Константин Владимирович, признаю Вас виновным в нарушении уставновленного порядком проведения уличных митингов и шествий и делаю замечание».

Як бы там ні было, шаноўныя грамадзяне Беларусі, але суд над Жынём адбыўся, а гэта значыць, над ушанаваньнем памяці нашых продкаў, якія складалі свае жыцьці, каб некалі на гэтай зямлі існавала наша дзяржаўнасьць, наша культура, традыцыйная талерантнасьць, вольналюбства, павага да чалавека й каб мог нарадзіцца той самы Жынь і той самы суддзя.

**М. КАРНЕВІЧ.**

## Пра аўстрыйскія магілы

Днямі на тэлебачаньні Вены адбылася незвычайная перадача, удзел у якой ўзялі двое гарадзенцаў — спадары Ю. Крыніцкі й Ю. Маслоўскі. Госьці з Беларусі вялі расповяд пра загінуўшых у гады Другой Сусьветнай вайны на тэрыторыі нашай краіны аўстрыйскіх жаўнераў. Як высьветлілася, большасьць могілак аўстрыйскіх жаўнераў знаходзіцца на Гарадзеншчыне. Яшчэ выступаючыя расказалі пра тое, што, пачынаючы з 1992 года, на могілках жаўнераў сталі весьціся малебны, якія сталі магчымымі толькі з набыцьцём нашай краінай незалежнасьці.

## Малыя шанцы Аўгустоўскага каналу

Апошнім часам вядзецца шмат гаманы наўкол беларускай часткі Аўгустоўскага каналу. Ініцыятары аднаўленьня гэтага воднага шляху даводзяць мноства аргумэнтаў для яго існаваньня. Аднак у асяроддзі кіраўніцтва рачнога порту «Горадні» існуе іншая думка. Тут лічаць, што ня трэба сьпяшацца ўкладаць дзяржаўныя сродкі на аднову беларускай часткі каналу, бо на гэтую справу сёньня патрэбны дзесяткі мільёнаў рублёў. А пэрс[illegible]тывы скарыстаньня Аўгустоўскага [illegible]лу вельмі малыя, бо наўрад ці спатрэбіцца эканоміцы рэспублікі гэты водны шлях.

## Порт, нарэшце, выплаціў пазыкі

Дажджлівае, [illegible]поднае лета станоўча адбілася [illegible]эканамічным становішчы гарадзенскага рачнога порту. Амаль цэлае лета порт безперапынна працаваў, пастаўляючы будаўнічы пясок вытворчым прадпрыемствам гораду.

Дзякуючы спрыяльнаму надвор´ю, рачнікі выканалі неабходны плян перавозак і атрымалі добры прыбытак, што дазволіла партавікам разьлічыцца з крэдыторамі.

З верасьня рачны порт працуе на ўласны прыбытак.

## Перамогі бываюць розныя

Днямі ў спорткомлексе «Уручча» адбыліся дзьве гульні папярдняга этапу розыгрышу кубка Эўрапэйскіх чэмпіёнаў па гандболу паміж Менскімі армейцамі і чэмпіёнамі Эстоніі — клюбам «Кэхра». Як і чакалася, перамогу па выніку дзьвух сустрэч атрымалі беларускія чэмпіёны. Першая гульня — лік 33:21 на карысьць менчукоў. Паядынак у адказ скончыўся сэнсацыяй — лік 21:26 на карысьць гасьцей.

Калі рабіць нейкія в[illegible]вы, трэба заўважыць, што фактычна перамога беларускага клюбу была здабыта ў стартавыя 10 хвілін першай гульні, а далей жа нашы хлопцы дагульвалі час. Чаго нельга згадаць пра гульцоў эстонскага клюбу. Госьці з усіх сілаў стараліся паказаць сваё майстэрства, характар. Мен[illegible]і ж, наадварот, больш нагадвалі мед[illegible]дзёў перад зімовым сном. Здавалася, ш[illegible] іх зусім не турбаваў прэстыж клюбу й дзяржавы. Відаць, меў рацыю адін з гледачоў, калі заўважыў, што беларусы сьпяць і бачаць сябе ў знакамітых эўрапэйскіх гандбольных клюбах. Але з такімі непрафэсійнымі адносінамі да гульні маладым гульцам менскага СКА тамака рабіць няма чаго.

Дарэчы, паралельна са стартавымі паядынкамі папярэдняга этапу ў Балгарыі праходзілі фінальныя гульні чэмпіянату Эўропы па гандболе сярод юначак. Нашы дзяўчаты ў вострай барацьбе за 5-е й 6-е месцы саступілі зборні Румыніі з лікам 20:23.

**Г. А.**

## Баль для бізнэсмэнаў

Фонд адраджэньня Гарадзенскай капэлы рыхтуе вечар адпачынку для дзелавых людзей. Праграма вечару самая разнастайная: выступленьне аркэстру, хору, салістаў капэлы. Сваё мастацтва прадэманструюць юныя таленты. Адбудзецца прэзэнтацыя круглага стала «Бізнэс і культура». Будзе працаваць выстава творчых работ гарадзенскіх мастакоў, прагучаць бардаўскія і эстрадныя песьні. У заключэньне перад прысутнымі выступяць танцоры, якіх на сцэне зьменіць эратычнае вар´етэ.

**Заявы можна рабіць па тэлефоне 45-21-77.**

## Вуніятаў «адфутбольваюць»

Гарадзенскія вуніяты зьвярнуліся ў ваблясны гаспадарчы суд, каб абскардзіць рашэньне аблвыканкаму аб перадачы базыльянскага храма праваслаўнай царкве. Атрымаўшы праз дзень адмову, вуніяты 13 верасьня накіравалі сваю заяву ўжо ў Вышэйшы гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь.

## Кракаў

13 верасьня з Англіі ў Варшаву перавезены астанкі гэнэрала Ул. Сікорскага, які ў 1939-1943 г.г. быў галоўнакамандуючым і прэм´ерам польскай дзяржавы. Учора астанкі перавезены ў Кракаў, дзе сёньня, 17 верасьня, яны будуць перахаваны на Вавэлі.

**Р. М.**

# Пра што гаварыў беларускі міністр у Вільні

Візыт міністра замежных справаў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанкі й міністра адукацыі У. Гайсёнка ў Летуву супаў з 1 верасьня. Гэты дзень візыту быў амаль цалкам прысьвечаны кантактам міністраў і іх калегаў з беларускай грамадзкасьцю Вільні. Апроч урачыстасьцяў з нагоды адкрыцьця беларускіх класаў у школе № 17 (з расейскай мовай навучаньня) адбылася выцечка па беларускіх мясьцінах Вільні (яе праводзіў малады гісторык Ю. Шаўцоў), пашыраная канфэрэнцыя міністраў і прадстаўнікоў віленскай грамадзкасьці ў пэдагагічным унівэрсітэце.

На канфэрэнцыі прысутнічалі абодва міністры, іх прадстаўнічая «каманда», рэктарат унівэрсітэту, беларускія настаўнікі й студэнты, кіраўнікі суполак і клюбаў, журналісты. Сустрэчу адкрыў даклад В. Стэха, кіраўніка клюбу «Сябрына», з рэзкай крытыкай пазыцыі беларускага ўраду ў дачыненьні да віленскай беларушчыны. Пасьля кароткага прывітальнага слова рэктара пэдунівэрсітэту прагучала доўгае выступленьне П. Краўчанкі, сутнасьць якога была ў аптымістычнай ацэнцы палітыкі сёньняшняга ўраду ў зьнешнепалітычнай і культурніцкіх сфэрах. У прыватнасьці, была прыадчынена таямніца пра той дыпляматычны двубой, які вядзе Беларусь з Чэхіяй за месца ў Савеце Бясьпекі ААН. Як і варта было чакаць, нягледзячы на спробы П. Краўчанкі прыцягнуць увагу грамады да іншых удзельнікаў урадавае дэлегацыі Беларусі, галоўныя пытаньні былі скіраваны да яго.

Адказваючы на пытаньне, ці не ўцягне, урэшце рэшт, пракамуністычны парлямэнт Беларусь — вайсковапалітычную канфэдэрацыю з Расеяй. П. Краўчанка выказаў зьдзіўленьне, як магло паўстаць само гэтае пытаньне... На яго думку Ельцын — антыкамуніст, а па-другое, ён як міністр замежных справаў, можа амаль запэўніць, што такога саюзу з Расеяй ня будзе. Што ж датычыць камуністаў, дык і яны людзі розныя, а камуністычны рух, па словах П. Краўчанкі, самы папулярны на Беларусі сярод іншых палітычных плыняў. Апроч таго, разам з міністрам Гайсёнкам, спадар Краўчанка запэўнівалі аўдыторыю ў сваёй пільнай увазе да віленскай беларушчыны, выказаўшы надзею, што беларуская гімназія «вернецца ў сваё законнае месца, у Базыльянскія муры».

Пытаньняў ад аўдыторыі сапраўды было шмат, галоўным чынам, яны тычыліся сацыяльных аспэктаў: грамадзянства, візы, пэнсіі, адукацыя й г. д. Прагучалі дыпляматычныя дыфірамбы ў адрас летувіскага ўраду, рэктарату пэдунівэрсітэту, беларускага ўраду і, ў прыватнасьці, ў адрас П. Краўчанкі...

Калі змрок ахутаў Вільню, загарэліся вокны кавярняў і рэстарацыяў, у адной з іх — у «Літерату светайне» супрацоўнікі беларускіх міністэрстваў і ведамстваў змаглі сустрэцца са сваімі летувіскімі калегамі й актывам віленскай беларушчыны ў больш нязмушанай, цёплай абстаноўцы. Адны адпачывалі, другія працягвалі работу. Кантакты, кантакты...

«Беларуская» частка візыту беларускай дэлегацыі ў Летувіскую Рэспубліку дала магчымасьць, прынамсі ўпершыню намацаць балявыя кропкі беларушчыны ў Летуве й сфармуляваць тое кола пытаньняў, якімі неўзабаве павінна будзе заняцца беларуская дзяржава: беларуская адукацыя ўсіх ступеняў у Вільні, рэалізацыя праэктаў па сродках масавае беларускае інфармацыі, музэю й г. д., юрыдычная й сацыяльная апека над грамадзянамі Беларусі, памяжоўныя кантакты тысячаў жыхароў абедзьвух маладых дзяржаваў, далейшы лёс маладых беларускіх гуманітарыяў і Вільні.

**С. В.**

# ВІЛЕНШЧЫНА

## Тоўстая сьвечка з партрэтам Папы і «пацёмкінская вёска» на праспэкце Гэдыміна

### 1. Напярэдадні

Цырыманіял візыту Сьвятога Айца становіцца ўсё больш падобным на цырыманіял сустрэч у мінулым гэнэральных сакратароў і другіх асоб савецка-бальшавіцкай іерархіі. Усё тыя ж «пацёмкінскія вёскі» — фарбуюцца фасады дамоў, ля якіх будзе праяжджаць высокі госьць (фарбуем ненадоўга, праз год ад фарбы й сьледу не застанецца). Брукуем вуліцы, зразумела, у цэнтры, сьмецьце адсоўваем далей, з вачэй прэч, рэпітуем парады, цырымоніі прыезду — сустрэчы — ад 'езду. Складаем сьпісы «першачаргоўцаў» (раней іх называлі прадстаўнікамі народу). Можна здагадацца, што для іх у тэрміновым парадку вышукваецца нацыянальнае адзеньне і ўсё астатняе. На сьценах — плякаты, у вітрынах — сувэніры. Найбольш уразьлівы сувэнір — тоўстая сьвечка з партрэтам Папы. Добры падарунак для прыхільнікаў пасядзець пры сьвечках.

Рыхтуюцца ўсе, у тым ліку і ўлады. Гэта ня жарты — вырашыць, якім чынам былым камуністам-атэістам (а можа, каталікам цэкоўскіх катакомбаў) вітаць Сьвятога Айца. Ці цалаваць яго пярсьцёнак? Ці знойдзецца такі клерык ці ксёндз, які навуча, як весьці сябе ў касьцёле? Абразок з не так далёкага мінулага. У Катэдры ўстаноўлена труна з целам сьветлай памяці І. Сьцепанавічуса. Прыбываюць і ўлады. Ля ўваходу — тэлевізыйныя апэратары. Улады хочуць, каб народ іх бачыў з папулісцка спрыяльнага ім боку, а таму становяцца тварам да камэр, а сьпінай да аўтара. Ксяндзу — арганізатару прыходзіцца тлумачыць, што так нельга, не старшыня Вярхоўнай рады й яго каманда зьяўляюцца галоўным «пірагом» сьвята, і прыйшлося ім павярнуцца (а са сьпіны шмат з іх выглядае куды разумней і прывабней).

«Сьведчым Хрысту», — заклікаюць мэдалі, плякаты.

Сьведчым Хрысту! Сьведчым антыхрысту й суцэльнаму вар 'яцтву. Кажуць, у Афрыцы, у нейкім Бантустане, Сьвяты Айцец гэта заўважыў. І сказаў, што лепш галодных накармілі й душы ачысьцілі. А што, калі й намі, як тымі бантустанцамі, Папа будзе незадаволены? Хто будзе кусаць локці? Няўжо толькі лідэры?..

**Паводле газэты «Рэспубліка».**

### 2. Напрыканцы

Велізарнае значэньне меў візыт Папы Рымскага Яна Паўла II ня толькі для каталіцкай царквы, але й для ўсяе Летувы. Казані Сьвятога Айца, прамоўленыя, дарэчы, на добрай летувіскай мове, нясуць у сабе вялікі сэнс дзеля розных сфэраў жыцьця краіны.

У Летуве, дзе акупацыйныя ўлады на працягу паўстагоддзя нахабна зьнішчалі рэлігію, царкву, пасьля ўзнаўленьня незалежнасьці ўсе кінуліся да іншай скрайнасьці, і ня толькі асобныя ксяндзы, але й біскупы спрабавалі ўмешвацца ў палітыку партыяў. «Праблемы гэтага гістарычнага пэрыяду патрабуюць наданьня вялікай увагі сацыяльным аспэктам вашага жыцьця. Але як дзяржава не павінна мяшацца да рэлігіі, так і ксяндзы не павінны лезьці да партыйнай палітыкі й дзяржаўных справаў», — сказаў Ян Павал II у сваёй казані, прамоўленай у Віленскай Катэдры.

Каталіцкая грамадзкасьць Летувы прыкладала нямала намаганьняў да таго, каб Сьвяты Айцец наведаў краіну, аднак гэта стала магчымым толькі цяпер — у незалежнай Летуве. І ўсё ж трэба сумленна прызнацца, што Папа Рымскі прыехаў у краіну, свабодную толькі фармальна. Нашаму чынавенству й напярэдадні, й пад час самога візыту надта ж хацелася выглядаць сьвяцейшымі за самога Папу. Як і ў савецкія часы, відавочна, пераважала форма.

Цэнтр Вільні быў закрыты для транспарту за дзень да пачатку візыта: потым яшчэ на чатыры дні. Закрылі ня толькі горад, але й рынак на ўскрайку горада ў Гарунах, як быццам ад гэтае канкрэтнае забароны можа зьнікнуць сама такая зьява. Кіраўніцтва Вільні забараніла па ўсёй сталіцы продаж алкагольных напояў — нават віна й піва — і дні 4 і 5 верасьня. У суботу такая «пацёмкінская вёска» пратрымалася ў цэнтры, на праспэкце Гэдыміна, а ў нядзелю палітыка цьвярозасьці, накінутая айцамі горада, ляснула й там.

Адзіныя, хто й да візыту Сьвятога Айца, й пад час яго паказалі сапраўднае аблічча, былі банкіры Летувы. Яны ўсяляк імкнуліся напярэдадні візыту зьбіць цэны на канвэртаваную валюту. То не скупляючы яе, то не прадаючы, парушаючы законы ў разьліку на практычна дармавыя даляры й маркі замежных пілігрымаў.

Але міф, які стварылі банкіры і ўлады, ляснуў (Вільня прыняла толькі 20% чакаемых пілігрымаў, летувіская чыгунка — толькі 5% чакаемых пасажыраў) і вынік не прымусіў сябе чакаць — курс канвэртаванай валюты рвануў угару.

**Паводле газэты «Летувос рітас».**

## Як падзяліць чыгуначную станцыю?

За права праезду на грузавых машынах па тэрыторыі Беларусі летувіскія кіроўцы павінны будуць плаціць 150 даляраў.

«Гэта адзіная краіна, з якой мы да гэтай пары ня можам дамовіцца аб умовах, зручных для пасажыраў. У гэтым пытаньні мы знайшлі агульную мову з Польшчай, Нямеччынай, Расеяй. Прычыны хутчэй эканамічныя, а не палітычныя», — сказаў карэспандэнту ЭЛЬТА І. Біржышкіс (міністр шляхоў зносін). На думку беларусаў, іх краіна транзітная, і яны разьлічваюць на прыбыткі. Бадай што яны маюць рацыю. Па тэрыторыі Беларусі праходзяць галоўныя дарогі з Эўропы ў Расею, з Захаду на Усход, з поўдня на поўнач.

Беларускі бок хоча, каб транспартныя плыні рэгуляваліся на парытэтных пачатках, аднак па дарогах Беларусі праходзіць больш летувіскага транспарту, як беларускага — па Летуве.

Другая праблема — чыгунка, якая перасякае тэрыторыі абедзьвух дзяржаваў. Напрыклад, чыгуначная дарога на Друскенікі, Адуцішкі й Вялікае Сяло (Діджясаліс) праходзіць па беларускай тэрыторыі. Беларусы прадставілі свой праэкт, але яшчэ не дасягнута дамоўленасьць аб тым, як падзяліць чыгуначную станцыю Адуцішкі, якая знаходзіцца акурат на мяжы. Трэба дамаўляцца й аб транспарце, які ідзе праз Дзявенішкі.

**С. В.**

## Інструкцыя для амэрыканскага жаўнера

**Амэрыканская армія можа высадзіцца ў любой краіне пры ўмове, што яна не гарыстая, тамака няма зімы, а непрыяцель слаба ўзброены.**

Ад вайсковай апэрацыі «Рэстар хоўп» у Самалі ёсьць карысьць ня толькі для жыхароў гэтай краіны, мы, г. зн. уся астатняя рэшта сьвету, таксама можам пакарыстацца чымнечым.

Напрыклад, адзначым тое, як мы штодня бяздумна падаем пры павітаньні правую руку й нават не задумваемся, чаму менавіта яе. Адказ часам бывае вельмі простым. Яго можна адшукаць у 18-старонкавай брашурцы, выдадзенай галоўным камандаваньнем арміі Злучаных Штатаў. Надрукавалі яе якраз з нагоды апэрацыі «Рэстар хоўп», а ўручалася яна ўсім жаўнерам, якія пасылаліся ратаваць Самалі. Ёсьць ў брашуры, між іншым, штабовая інструкцыя наконт таго, што з тубыльцамі трэба вітацца абавязкова правай рукой. Пры гэтым экспэрт па культуры тлумачыць: у шмат якіх краінах левая рука ўжываецца дзеля мэтаў, таямніча пазначаных як «некаторыя цялесныя чыны». Адсюль традыцыя падаваць правую руку, а таксама рызыка, што самаліец мог бы разьюшыцца, калі б камандос падаў яму левую руку. А тады магла б ляснуць уся апэрацыя па аказаньні гуманітарнай дапамогі...

Добра ведаючы, што працяг рукі можа аказацца не адзінай рэакцыяй на ўбачаных прадстаўнікоў мясцовага люду, галоўнае камандаваньне засьцерагае, што ані ў якім выпадку нельга на знак павітаньня цалавацца з самалійкамі або абдымаць іх. З набыцьцём ўетнамскага вопыту ў амэрыканскім штабе, відавочна, запанаваў рэалізм. Яго праявай зьяўляецца таксама выдрукаваны чорным на белым дазвол цалавацца з мужчынамі. Не ад сёньня мы ведаем, што амэрыканскае жаўнерства ва ўпакораных краінах не адмаўляе сабе ў ніякай самай неверагоднай прыемнасьці.

Інструкцыі галоўнага камандаваньня для закінутых на невядомую тэрыторыю камандосаў маюць на мэце ня толькі засьцерагчы перад непрыемнасьцямі, але таксама — дапамагчы дасягнуць посьпеху. Спэцыяльны разьдзел прысьвечаны таму, як атрымаць давер тубыльцаў і нават аўтарытэт сярод іх. Пэнтагон радзіць сваім жаўнерам паказваць самалійцам багацьце свайго лексікану, прыгожае маўленьне. У прыватнасьці, жаўнеру падказваюць ужываць вершаваныя радкі або доўгія фразы, цяжкія як для вымаўленьня, так і дзеля зразуменьня. Карацей, сяброўскі посьпех мае быць забясьпечаны і, падобна, ня толькі ў Афрыцы.

Праўда, у брашуры няма тых паэтычных прыкладаў, якія б камандаваньне жадала чуць у размове сваіх жаўнераў з самалійцамі...

Карысьць для сьвету ад апэрацыі «Рэстар хоўп» не абмяжоўваецца, ясная справа, адной толькі брашуркай галоўнага камандаваньня. Дзякуючы гэтаму мэрапрыемству, мы таксама, нарэшцэ, даведаліся, у якіх умовах найвялікшыя вайсковыя дзяржавы вольнага сьвету гатовыя выкарыстаць сваю моц у мэтах ратаваньня народаў, з якіх чыняцца злачынствы. Нашу задачу палягчаюць шматлікія журналісцкія камэнтары, з якіх вынікла папулярнае сёньня выслоўе: «Гаворым Самалі, думаем пра Босьнію» паводле «Мы гаворым партыя...», якое страціла сваю былую папулярнасьць.

Такім чынам, неабходныя для ратаўнічай інтэрвэнцыі ўмовы маюць быць наступнымі. Перадусім тэрыторыя, на якой спаўняецца злачынства, павінна быць раўнінай. Аніякіх каб не было пагоркаў або тым больш — гор, за якімі мог бы схавацца непрыяцель. Аніякіх рэк, якія трэба фарсіраваць. Клімат павінен быць цёплым. Не пажадана ў ніякім разе зіма.

Аднак тэрытарыяльна-кліматычныя ўмовы яшчэ ня ўсё. Акрэсьлены патрабаваньні да самога непрыяцеля. Ён павінен перш за ўсё, быць слаба й несучасна ўзброены. З ягонага боку было б вельмі прывабна, каб ён складаўся з асобных, нямоцных, неарганізаваных, варагуючых груповак. Мы не жадаем чуць пра кваліфікаваныя камандныя кадры ў непрыяцеля. Інакш галасаваньне ў Радзе Бясьпекі наконт інтэрвэнцыі ня будзе такім латвым.

Адным словам, нашыя чаканьні слушных паводзінаў непрыяцеля зразумелыя: перад прыездам нашых аддзелаў ён ужо павінен стаць у добра агляданым месцы, кінуць зброю й выпрастаць угору рукі. Канешне, убачыўшы нашыя збройныя аддзелы, ён можа й уцячы, але абавязкова пакінуўшы на месцы сваю зброю. Гэтым самым у нас было б менш праблем з арганізацыяй лягераў для палонных і зьнізіліся б кошты апэрацыі.

Пасьля выкананьня некалькіх гэтых умоваў мы гатовы пасьпяшацца на ратунак катаванаму народу ў любым месцы Зямлі, несучы яму добрую навіну аб поступе ў памыснай пабудове новага ладу на сьвеце.

«Wprost».

**Пераклад з польскай мовы.**

**Іранічная публікацыя парыжскага аўтара познаньскага часопіса цікавая тым, што надрукавана яна была на самым пачатку года. Сёньня мы бачым, якім відушчым быў журналіст. Простае жаданьне перашкодзіць бандытам, якія раскрадаюць у Самалі харчы для галоднага насельніцтва, абярнулася для ЗША сітуацыяй, якая па-новаму, але вельмі ж нагадвае Ўетнам.**

**Падобная ж небясьпека чакае, як нам здаецца, Беларусь, калі яна будзе ўцягненая ў таджыцкі або які-небудзь падобны канфлікт.**

# ЭМІГРАЦЫЯ

## Майстра Хведар з Таронта

Як заўжды Хведар Пятровіч Дзікавіцкі абудзіўся рана. Але з ложка ўставаць не сьпяшаўся. Наадварот, перавярнуўшыся на другі бок, паспрабаваў заснуць. Сон ня йшоў да яго. У галаве, парушыўшы ўсялякі лягічны кірунак, роіліся думкі. На зьмену думкам пра дзяцінства прыляталі ўспаміны пра апошнія гады працы на заводзе,дзе сталеў, набіраўся жыцьцёвага вопыту, майстэрства. Страціўшы надзею заснуць, Хведар Пятровіч узьняўся з ложка, знайшоў ліст паперы й пачаў пісаць пісьмо.

■

Добры дзень, каханы брат Міхась, вось і я ўжо на рэньце. Амаль сорак год працаваў на мэблевай фабрыцы Таронта, і больш няма патрэбы ісьці на працу. Неяк зусім нязручна адчуваю сябе ў ролі рэньціста. Ды спадзяюся, што з цягам часу прывыкну. Адно ўжо добра, зараз маю шмат часу, каб напісаць табе ліст ці ўспомніць сваю родную вёску Вялікія Дзіковічы, сяброў. Дарэчы, ты пішаш мне, што ўсе яны жывыя, здаровыя, маюць нават унукаў. На жаль, я страціў сям 'ю, і пахваліцца ў гэтым няма чым. Жонка й дзеці далёка ад мяне, пра іх лёс амаль нічога ня ведаю. Адна асалода ў жыцьці — побач наша сястра Ліда. Кожную нядзелю наведваю яе. Яна хварэе, не працуе, трэба тым-сім дапамагчы. Вось я й маю сабе такі нязвыклы занятак. Часам сустракаю ў сястры яе сына Джорджа. Ён наведвае маці, але яму не заўсёды хапае часу — сам разумееш: свая сям 'я, жонка, дзеці — школьнікі. Ліда вельмі задаволена, калі бачыць сына, здаецца, усе хваробы пакідаюць яе.

Што тычыцца майго асабістага жыцьця, то яно, ты ж ведаеш, ня было салодкім.

Апошнія гады працаваў майстрам на мэблевай фабрыцы. Вучыў нававбранцаў сакрэтам свайго майстэрства. Праца, скажу табе, адказная, патрабуе ведаў, вопыту, часам нават сілы. Так павялося апошнія дзесяць год, што адміністрацыя нашай фірмы ганялася ў выніку эканамічных цяжкасьцей за таннай працоўнай сілай. Наймалі пераважна выхадцаў з Польшчы, Паўднёвай Амэрыкі. Сам ведаеш, што за працаўнікі палякі, ім бы толькі пянёндзы, а аддачы небагата. Вось я іх і вучыў асновам інтэнсіўнасьці працы, якасьці, кваліфікаванага падыходу да абсталяваньня, хто не вытрымліваў цяжкару, ішоў на вуліцу. Сустракаліся мне й вашы савецкія людзі. Скажу шчыра, іх трэба было таксама муштраваць.

Крыўдна глядзець на сваіх суродзічаў, што дрэнна валодаюць мовай, камп 'ютэрам, унівэрсальным дрэваапрацоўчым станком.

Ведаеш, браце, мяне аніхто не вучыў працаваць якасна, адказна. Проста памятаю, калі нас з Гэрманіі ў сорак пятым амэрыканцы везьлі да сваёй краіны, то вельмі часта нагадвалі: хто будзе добра працаваць, вельмі хутка стане багатым чалавекам. Мне ох як хацелася жыць заможна! Таму я, не шкадуючы сілаў, працаваў. Там, дзе спэцыяльна патрабаваліся два чалавекі, я спраўляўся адзін.

Праца прынесла задавальненьне, павагу. Мяне перавялі ў цэх інкруставанай мэблі. Выконвалі замовы самых заможных людзей Канады, ЗША. Мэблю рабілі з дуба, чырвонага й лімоннага дрэва. Замовы былі самыя разнастайныя: для офісаў, палацаў, для абсталяваньня яхтаў, нават для ўласных самалётаў мільянэраў. Заробкі былі хоць куды — тысяча даляраў за тыдзень. Відаць, таму й дарэмна жылі месцам — дзеля заробку. І ніхто ніколі не скардзіўся на стомленасьць ці дрэнныя ўмовы працы.

У цэху прапрацаваў ажно трыццаць гадоў, хацеў ужо адыйсьці на рэнту. Ды папрасілі мяне папрацаваць майстрам з маладымі рабочымі. Дзесяць год вучыў іх працоўнай мудрасьці. Зараз, калі сустракаю каго-небудзь з былых вучняў, чую толькі падзяку. Многія запрашаюць у госьці. Бывае — хаджу, бывае—не.

Вельмі хочацца пабываць на старасьці гадоў у гасьцях на Бацькаўшчыне. Паглядзець на родную Берасьцейшчыну. Вось тут я б не прамінуў, зайшоў бы ў кожную хату. Слухаў бы з удзячнасьцю нашы беларускія песьні, гамонку. Глядзеў бы на нашых дзяўчат, якія водзяць на лугах карагоды.

Шаноўны Міхась, часам да нас у Таронта трапляе газэта «Голас Радзімы», у ёй багата цікавай інфармацыі. Асабліва пра беларускія вячоркі. Прашу цябе, дашлі мне касэту з песьнямі нашага дзяцінства. Я іх буду слухаць і распаўсюджваць паміж нашымі беларусамі. Зараз, калі Беларусь стала незалежнай, многія ўспомнілі, хто яны й адкуль. А каб нас было больш сьвядомых, неабходна як мага болей роднага, бацькоўскага.

■

Вось такі Хведар Пятровіч Дзікавіцкі, якога лёс закінуў далёка ад Радзімы. Ён яе не забыў і нядаўна з гуманітарнай дапамогай даслаў сваім родным некалькі тысячаў даляраў.

**Г. ЛІС.**

## Абкамаўская дача

Неяк апошнім часам газэты не стракацяць ужо таямнічымі загалоўкамі аб золаце партыі, яе першых кіраўніках, іх справах і г. д. Хоць, зрэшты, гэта натуральна, ды й колькі можна аб адным і тым жа, нягледзячы нават на тое, што ніхто й дагэтуль не ведае, дзе падзелася тое золата, а даўно перафарбаваных лідэраў некалі авангарднай партыі зараз хутчэй сустрэнеш у шэрагах новых дэмакратычных рухаў ці камэрцыйных структурах.

Праўда, у нас на Гарадзеншчыне, у прыватнасьці, ніводная мясцовая газэта не пісала ні аб якіх партыйных скарбах. Напэўна, зараз на 99% былыя партыйныя лідэры ўладкаваныя ў вобласным, гарадзкіх, раённых саветах, камэрцыйных структурах, розных канторах, інспэкцыях, фондах, выкладаюць у школах, вучэльнях і г. д.

У нас на Гарадзеншчыне ня можна было пісаць аб гэтым. Часам хіба што аб нейкім з «былых» можна было пачуць дзе-небудзь у чарзе альбо ў лазьні. Людзі, як кажуць, шмат што ведаюць...

У прыгожым мястэчку Азёры, на беразе возера, куды я трапіла ўпершыню гэтым летам, мне ніяк не сядзелася на месцы. Часам стаяла ня вельмі сонечнае надвор 'е, каб апальвацца, а часам папросту хацелася выйсьці ў лес на шпацыр па грыбы з гарэхамі.

Аднаго разу мне падалося, што я заблукала, хоць адчувала, што ўсё ж недзе недалёка ад дому. Выйшла на вузенькую лясную сьцежку. Мяне зьдзівіла, што яна акуратна была пасыпана жвірам, хоць галінкі старых дрэваў так нізка апускаліся на яе, што здавалася, быццам гэта нейкая маскіроўка.

Сьцежка вывяла мяне да брамы. Побач цагляная невялікая буда з вакенцам і пабітым шклом. А далей на горцы вялікі прыгожы двухпавярховы дом. Першы паверх ад фундамэнта складзены з цэглы, а другі, быццам мансарда, з вялікімі вокнамі, драўляны. Вокны сумна завешаны фіранкамі, здалося, што тут ніхто не жыве.

Побач з домам сталы мужчына дзіўна пазірае на мяне й з усьмешкай пытаецца: «Куда это, Красная Шапочка, путь держишь?» Мужчына з выгляду просты, вясковы, напэўна, з Азёраў, і мне падумалася, што гэта чый-небудзь дом адпачынку.

Я па-беларуску звярнулася да яго, запытала, куды трапіла й патлумачыла, што, напэўна, заблукала. Найболей дзеда зьдзівіла тое, што я «папростаму» гавару, і ён ніяк ня здолеў уцяміць, што я гарадзкая.

Моўчкі сядзелі, гамонілі за жыцьцё, дзед пачаў узгадваць мінулае й распавеў мне, што трапіла я на былую абкамаўскую дачу. Маўляў, шмат каго ён з начальства ведае, хто быў і хто зараз у вобласьці кіруе.

— Некалі,— апавядаў дзед,— яшчэ да путча, сюды часта наведваліся Першы, Другі ды й меншага рангу чыноўнікі, якія й дагэтуль сядзяць у аблвыканкаме. Усё навокал акружала міліцыя, а ў той будцы, што пры ўваходзе, таксама сядзеў паставы. А яны сабе пілі гарэлку, шашлыкі ім шафёры смажылі, ды й юшку таксама яны варылі. Праўда, Першы шмат не ўжываў, быў чалавек інтэлігентны, ды й нешта страўнік у яго пабольваў. Але некаторых у машыну назад папросту заносілі, балявалі напоўніцу.

Здаралася, што дзеці іхнія, часам, адныя, г. зн. з сябрамі й сяброўкамі, наяжджалі. Чарку перападала ўсім выпіць, ніколі не шкадавалі.

Я папрасіла дазволу агледзець палац, праўда, ад другога паверху ключоў не было. Дарэчы, зараз ён, быццам, належыць нейкім спарцмэнам. Дзед сказаў, што пасьля путча папросту перадалі ў другія рукі, а іх пры месцы заставілі.

Палац сапраўды дыхтоўны, прасторны, жыві хоць зімой, хоць летам. Цёпла, утульна, багата, надзейна, і прыслуга да таго заўсёды побач. І гэта яшчэ ў той час, калі ў пасёлку Паўднёвым людзі баяліся другі паверх будаваць, бо Абэхэс адразу за скуру возьме.

А побач возера й лодкі. Усё на месцы й вельмі прыгожа, і быццам бы побач з іншымі турбазамі для рабочага класу...

Мне хапіла часу, каб уявіць сабе чырвонашчокіх босаў, якія сьціпла й ветліва працягваюць табе руку, калі заходзіш да іх ў габінэт. Асабліва гэта было адчувальна напачатку перабудовы. А недзе ўвечары альбо выхаднымі, можа, сядзелі тут за гарэлкай і пасьмейваючыся, апавядалі адзін аднаму, як яны гуляюць у дэмакратаў. Яны й цяпер пасьмейваюцца.

**Ф. МАЛЕЦКАЯ.**

## Што ў Верцялішках амаль задарма, тое ў Каробчыцах...

Цяжка зараз у Горадні з жыльлём, дый калі з ім было лёгка! Будавацца таксама ня ўсім пад сілу. За зарплату можна набыць хіба толькі два фундамэнтныя блёкі, дый тыя з заводу не вывезеш, бо грошай болей не застанецца. Але ж гэта як каму.

Знаёмыя апавядалі, што адзін наш былы аднакурсьнік, які працуе ўжо спора на мытні, збудаваў у Баранавічах (вёска бліз Горадні) за нейкі год трохпавярховы домік па памерах, як трэйцяя частка чыгуначнага вакзалу ў Горадні. У доме дзесяць пакояў, тры прыбіральні — усё, як належыць.

Толькі якім жа чынам у тых Баранавічах будуюць, бо, як зноў жа распавядалі знаёмцы, у Каробчыцах зараз каб выкапаць катлаван пад фундамэнт, экскаватаршчык запрасіў трыста даляраў. Яму даводзілі, што ёсьць жа цэны — 50 «кускоў» беларускімі. На што ў адказ пачулі: беларускімі ніколькі не хачу, а меней, чым за трыста даляраў, ня буду.

Дзіўна, што ў такой жа самай сітуацыі такі самы катлаван дзядзька ў Верцялішках выкапаў за пляшку гарэлкі й яшчэ падзякаваў, што белай прынесьлі, а не якую там каляровую атруту.

**(ав).**

## Сьціслым радком

На Дзятлаўшчыне рыхтуюцца адзначыць стагодздзе Ігната Дварчаніна, дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Створаны фонд, у які ўжо паступаюць сродкі для правядзеньня сьвяточных мэрапрыемстваў.

Хор «Сузор 'е» сьвіслацкага РДК пабываў з канцэртамі на Беласточчыне, дзе ўзяў удзел у фэстывалі беларускай культуры «Нараў-93». У праграме фэстывалю ладзіліся сустрэчы з беларускімі літаратарамі Беласточчыны й кніжны кірмаш.

**М. Д.**



Фатаграфаваў **А. МАКАРЭВІЧ.**

# МАСТАЦТВА

# Паўсьвета абыйсьці, каб выставіцца



**8 верасьня ў Горадні ў Новым замку адчыніў выставу сваіх карцін мастак са Швэцыі Ян Кузьміцкі, які ў 1934 годзе нарадзіўся на Гарадзеншчыне ў вёсцы Багданаўцы бліз Жалудка.**

Ян хваляваўся, але па-добраму ўсьміхаўся й вылучаўся сваёй зьнешнасьцю. Падабраныя ззаду, накручаныя валасы, завязаныя ружовай стужкай, нагадваюць дзявочы хвосьцік. Ян кажа, што фатаграфавацца любіць абавязкова ў капелюшы. Гаворыць парасейску, усё разумее па-беларуску.

Ен апавядае пра цяжкія гады, якія спазнаў у маленстве. Праз два тыдні пасьля таго, як нарадзіўся, памерла маці. Папракалі сірату, зьдзекаваліся, асабліва ў час вайны.

Зараз Ян быў у сваёй вёсцы й сустракаўся з усімі сваімі землякамі. Яму было цікава пабачыць людзей, з якімі некалі праходзіла яго жыцьцё.

Лёс і надалей не шкадаваў яго. У 1944 годзе Ян застаўся калекай, страціў нагу. У дваццацічатырохгадовым узросьце выехаў у Польшчу, а затым і далей у сьвет. Аб 'ехаў аж 22 краіны.

Зараз жыве ў Швэцыі ў горадзе Упсала. Праўда, працуецца яму творча лепей у Фінляндыі, адкуль паходзіць яго жонка, дзе ёсьць у бязлюдным месцы свой домік, у якім можна заўсёды застацца аднаму.

Акрамя карцін, на выставе было некалькі скульптур з дрэва. Ян таксама даўно гэтым займаецца, толькі прывезьці болей ня здолеў. А яшчэ ён спрабуе сябе ў тэхніцы манатыпіі.

# Вітаўт супраць Ягайлы

У 1377 годзе пасьля больш чым 30-гадовага княжаньня паміpae вялікі князь літоўскі Альгерд. Пасад вялікага князя заняў ягоны сын — Ягайла. Кэйстут, Альгэрдаў брат, з аднаго боку шануючы ідэю еднасьці, але, ўлічваючы волю памёршага Альгэрда, які прызначыў сваім наступнікам Ягайла, прысягнуў свайму пляменьніку. Сам жа Ягайла бачыў у князі Кэйстуце й ягоным сыне Вітаўце асноўных сваіх канкурэнтаў. З мэтай пазбавіцца ад дзядзькі й стрыечнага брата ён заключыў пагадненьне з тэўтонскімі рыцарамі, зьлейшымі ворагамі краіны. Крыжакі былі ня супраць скарыстаць міжусобіцы ў ВКЛ дзеля сваіх карысных мэтаў. Але заключэньне саюзу Ягайлы з тэўтонцамі не ўдалося захаваць у тайне. Дзякуючы манаху з Астэроды па імені Густын, даўнішняму прыхільніку Кэйстута, апошні своечасова даведаўся пра сакрэтныя пагадненьні.

Якраз у гэты самы час вялікі князь Ягайла паслаў у Полацак намесьнікам свайго брата Скіргайлу, але палачане адмовіліся пусьціць яго ў горад з-за таго, што той не прыняў праваслаўя. Ягайла, моцна абражаны такім учынкам жыхароў Полацака, пасылае войска на чале з адвергнутым Скіргайлам пад сьцены горада. І зноў добразычліўцы Кэйстута ў Прусіі неаднаразова папярэджвалі яго аб небясьпецы. Як сьведчаць беларуска-літоўскія летапісы, стары Кэйстут паведаміў Вітаўту аб змове «За и, Воидила (службоўнік Ягайлы — заўв. аўтара), сестру дал, мою братанну, а из немець ми явлено что немьци записалися на нас. А се так третее: с ким мы ся воюем? — С немьци! Они с ними Полоцька добывають. Уже то проявилося, што они на нас полно стали с немьци». Але Вітаўт не паверыў гэтай інфармацыі, адказаўшы бацьку: «Еще того не доверяю гораздь». Кэйстут, аднак, пайшоў на Вільна, пазбавіў Ягайла вялікакняскага прастола, захапўшы пры гэтым сакрэтныя паперы, якія сьведчылі пра зносіны Ягайлы з крыжакамі. Апошняму, тым ня менш, былі пакінуты ўсе ягоныя замкі, у першую чаргу, Крэва й Віцебск, шматлікія скарбы й маёмасьць. Ягайла ж павінен быў прысягнуць, што ніколі не ўзброіцца супраць Кэйстута. Затым ён паехаў у Віцебск, дзе, як здавалася на першы погляд, не праяўляў асаблівай увагі да дзяржаўных справаў.

Так, у 1381 годзе Троцкая й Віленская паловы Вялікага Княства Літоўскага ізноў апынуліся ў адных руках. Але не на доўга гісторыя наканавала Кэйстуту быць уладаром усяе дзяржавы. У наступным 1382 годзе Ягайла, карыстаючыся з выправы старога Кэйстута ў Ноўгарад — Северскую зямлю супраць мяцежнага князя Дзімітрыя Карыбута, зьнянацку захапіў Вільню, а потым і Трокі. Вітаўт, які быў у Троках, вымушаны быў адступіць у Горадню, куды неўзабаве прыбыў і ягоны бацька. Сабраўшы вялікае войска, Кэйстут і Вітаўт рушылі насустрач Ягайле, якому на дапамогу прыйшоў мазавецкі князь Януш, тэўтонскія й інфлянцкія рыцары. Але бітвы так і не адбылося. Ягайла пад выглядам перамоў з дзядзькам і братам запрасіў абодвух князёў у свой абоз, вераломна схапіў, закаваў у ланцугі й адвёз у Крэўскі замак. У гэтым замку на пяты дзень і быў задушаны стары Кэйстут Ягайлавымі каморнікамі — Мосьцевым братам, Кучукам і Лісіцам Жыбеньцяям. Відавочна, што такое пакараньне чакала й Вітаўта, які, аднак, пераапрануўшыся ў вопратку служанкі, здолеў уцячы з Крэўскага замку спачатку ў Мазовію, а потым і да крыжакоў, каб помсьціць за гвалтоўную сьмерць свайго бацькі.

У Прусіі Вітаўт быў вымушаны прыняць каталіцтва, абвясьціць сябе васалам Тэўтонскага ордэна, каб атрымаць ад ягонага містра Конрада Цольнэра дапамогу у барацьбе з Ягайлам. Пад выглядам дапамогі Вітаўту тэўтонцы намерваліся калі не падпарадкаваць Вялікае Княства Літоўскае, дык рэгулярна пустошыць землі краіны. Крыжакам было даспадобы ўнутранае змаганьне ў ВКЛ, якое паслабляла гэтую дзяржаву. А тым часам тэўтонскія рыцары рабілі рабаўнічыя напады, спапялялі гарады й вёскі, забівалі безьвінных жыхароў. Вітаўт ня мог не бачыць каварных замыслаў крыжакоў, і таму ягоны хаўрус з імі ня мог быць трывалы. Больш таго, сам вялікі князь прапанаваў свайму стрыечнаму брату значныя тэрыторыі, калі толькі той парве адносіны з рыцарамі Ордэна. Вітаўт ахвотна даў згоду, вярнуўся ў Вялікае Княства Літоўскае й зноў перайшоў у праваслаўе. У выніку пагадненьня з Ягайлам Вітаўт атрымаў Горадню, Берасьце, Драгічын, Мельнік, Бэлз, Сураж, Камянец, Ваўкавыск, а затым Валынь і Падольле.

Так, у 1384 годзе прыпынілася міжусобная барацьба ў Вялікім Княстве Літоўскім і здавалася, што на землі краіны прыйшоў доўгачаканы мір. Але Крэўская вунія 1385 года й шлюб Ягайлы з польскаю каралеваю Ядзьвігаю зноў абвастрылі адносіны паміж дзьвюма галінамі Гэдымінавічаў. Годнасьць Вітаўта была моцна закранутая, калі Ягайла, атрымаўшы польскую карону, пад іменем Уладыслава прызначыў сваім намесьнікам ВКЛ з тытулам вялікага князя Скіргайлу, а не яго, Вітаўта. І што гэта за тытул, «намесьнік караля ў ВКЛ»? Вітаўт, безумоўна, ведаў аб згодзе Ягайлы, якую той даў польскім магнатам у Крэве, далучыць Вялікае Княства Літоўскае да Польшчы. Так, ён быў моцна пакрыўджаны асабіста прызначэньнем Скіргайлы, але яшчэ больш быў зьняважаны ягоны гонар як патрыёта краіны. Душа Вітаўта не магла прымірыцца з рашэньнямі Крэўскай вуніі, якія фактычна прывялі да падпарадкаваньня ВКЛ суседняй Польшчы. Скіргайла быў толькі фармальна кіраўніком краіны, але ўсімі справамі запраўлялі праездныя палякі. І Вітаўт ізноў становіцца на шлях барацьбы.

У 1389 годзе, калі Скіргайла ед 'ехаў у Полацак, згодна «Хронiцы Быхаўца», «Виталт, яко мужный и на всем был делный и промыслный довсецпу великого, зобрал гродням и подляшан и, тихо притяши под Вилню, хотел замки обадва виленские отобрати». Двойчы ён спрабаваў штурмаваць віленскія ўмацаваньні, але так і ня здолеў імі авалодаць і быў вымушаны вярнуцца ў Горадню. Адгэтуль Горадня пачынае адыгрываць важную ролю ў плянах Вітаўта. На гарадзенскія замкі князь ускладаў вялікія спадзяваньні ў змаганьні з Ягайлам. Разумеючы выдатна, што выправа на Вільню выкліча адпаведную рэакцыю з боку караля й Скіргайлы, Вітаўт узмацніў гарадзенскія замкі, як, дарэчы, й замкі ў Берасьці, Суражы, Камянцы, жаўнерамі й гарматамі. Акрамя таго, ён прадпрыняў рашучыя і, здавалася б, нелягічныя захады на дыпляматычным фронце. Вітаўт у другі раз просіць Вялікага магістра Тэўтонскага Ордэна аб дапамозе. Магло здацца, што спробы атрымаць падтрымку ў Конрада Цольнэра будуць безвыніковымі.

Крыжакі добра памяталі пра крыўды, нанесеныя ім князем Вітаўтам у 1384 годзе, калі ён перайшоў на бок Ягайлы, зьнішчыўшы пры гэтым 3 рыцарскія замкі: Юргэнбург, Мэргэмбург і Навадць. Але тым ня меней яны абяцалі дапамогу Вітаўту пры ўмове, што князь выйшле ім значных закладнікаў з Вялікага Княства Літоўскага. Вітаўт з цяжкім сэрцам вымушаны быў пайсьці насустрач патрабаваньням крыжакоў. Напачатку студзеня 1390 года ён пасылае да Вялікага магістра Конрада Цольнэра ў якасьці закладнікаў свайго брата Жыгімонта, сваю жонку Ганну, пляменьніка, дачку, сястру, а таксама трыманага ў палоне смаленскага князя Глеба Сьвятаслававіча разам з іншымі 100 знатнымі баярамі





# ГІСТОРЫЯ

## ў Горадні

Цікава, што перад тым, як стаць мастаком, Ян зьмяніў каля пятнаццаці прафэсій. Быў краўцом, сьлесарам, малярам, мэханікам і г. д. А вось вершы пачаў пісаць яшчэ ў дзяцінстве, на сваёй радзіме.

Такі няпросты лёс, вандроўкі па сьвету не маглі не адкласьці адбітак на сьветапогляд і творчасьць мастака. Вельмі часта ў, здавалася б, халодных скандынаўскіх фарбах адчуваюцца матывы нечага блізкага — бедныя хаткі, прыціснутыя да зямлі...

Ян кажа, што з пачуцьцём сваёй Радзімы пражыў усё жыцьцё, дзе б ні бываў. Аднойчы ў Амэрыцы мільянэры папрасілі, каб ён расказаў ім аб сваёй Радзіме, адкуль ён паходзіць і каб яны маглі ўявіць яе. Ён прывёў ім тады такое дзіўнае параўнаньне: «Дзень, сонца — гэта Амэрыка, а калі сонца заходзіць і ўжо амаль нічога не відаць — гэта й ёсьць мая Радзіма».

Яго цяперашнія ўражаньні ад Беларусі драматычныя. Ён расчараваны. «У вас у горадзе я бачыў, як нідзе, шмат прыгожых дзяўчат, і апрануты яны добра, але чаму іх твары такія пустыя, чаму яны нічым не зацікаўлены, ходзяць як салдаты...»

Ян частуе гасьцей самаробным напоем. Рэцэпт даволі просты й, як кажа мастак, зусім бяскрыўдны: гарэлка, аранжыкавы напой і звычайная вада.

На адкрыцьці выстаўкі, як заўсёды, адказныя асобы з выканкамаў — гарадзкога й вабласнога.

У зале даволі людна. Ян апавядае, што хоча застацца ў нас на паўгады, каб папрацаваць, але ўвесь час думае аб сваёй сям'і, якая засталася ў Швэцыі й сумуе па ім.

На разьвітаньне Ян піша некалькі слоў з пажаданьнямі на сваёй брашурцы па-польску.

**М. К.**

**Фатаграфаваў У. ВЫДЭРКА.**



**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**

## Даляры не прадаюцца

Апошнім часам ля гарадзенскіх шапікаў, якія гандлююць валютай, стала сумна. Тут няма болей чэргаў з тых, хто жадае прадаць свае 10—20 даляраў. Па тлумачэньні кар. «Пагоні» зьвярнуўся ў РКБ «Комплекс», дзе атрымаў такі адказ: згодна пастанове гарвыканкаму гандаль валютай за наяўны разьлік часова прыпынены. Жадаючым скарыстаць свае даляры РКБ «Комплекс» дапаможа толькі ў апэрацыях па безнаяўнаму разьліку.

## Бясплатныя візы

Як стала вядома рэдакцыі газэты «Пагоня» ад духоўніка лютэранскай грамады Горадні спадара У. Саказовіча, нямецкі ўрад выдзяліў гарадзенскім лютэранам квоту на бясплатныя візы. Але каб атрымаць такую візу, неабходна даслаць у нямецкае пасольства ў Маскве запыт, з якога вынікала б, што вам трэба паехаць туды з грамадзкімі, а не асабістымі мэтамі.

Дарэчы, двое гарадзенцаў нядаўна скарысталі з гэтай магчымасьці, яны адвезьлі на гістарычную Радзіму сьпісы 12 загінуўшых у час Другой Сусьветнай вайны нямецкіх жаўнераў.

## Мусульмане Каралеўца падпарадкоўваюцца Беларусі

Згодна загаду духоўнага ўпраўленьня мусульман СНД, дзяржаваў Балтыі й Сібіры, Мухтасібат Беларусі прыняў пад сваё падпарадкаваньне вернікаў мусульманскай грамады Каралеўца (сучасны Калінінград).

На думку сьвятара гарадзенскіх мусульман спадара Ю. Крыніцкага, гэта вельмі своечасовы крок духоўнага ўпраўленьня мусульман, бо большасьць мусульманскіх вернікаў Каралеўца — выхадцы з Беларусі.

**Г. У.**

й панамі Вялікага княства. Вітаўт мусіў таксама аддаць у рукі тэўтонскіх рыцараў Горадню й іншыя свае замкі. Бо надта ўжо крыжакі не давяралі Вітаўту, здагадваліся, што, дасягнуўшы сваіх мэтаў, ён можа ізноў пакінуць іх. І таму Вялікі магістр прыняў жорсткія меры супраць закладнікаў, каб пазбавіць князя Вітаўта свабоды дзеяньняў. Усіх іх, уключаючы й жонку Вітаўта, ягонага брата Жыгімонта, смаленскага князя Глеба Сьвятаслававіча, крыжакі пад пільнай вартай разьмясьцілі ў прускіх замках.

У замках, якія належылі Вітаўту, зьявіліся моцныя крыжацкія гарнізоны. Усе выдаткі на ўтрыманьне закладнікаў, што ацэньваліся ў 100 тыс. марак срэбрам, быў з'абавязаны выплаціць сам князь. Вось толькі такой цаной здолеў Вітаўт купіць падтрымку й саюз з боку крыжакоў.

У той час, калі Вітаўт вёў перагаворы з Тэўтонскім Ордэнам і рыхтаваўся да барацьбы, ягоныя праціўнікі нанесьлі яму неспадзяваны ўдар. У неспрыяльных умовах, калі была халодная й галодная зіма, Ягайла захапіў у Вітаўта замкі: Берасьце, Луцк, Сураж, Камянец. Толькі адна Горадня засталася ў руках князя. Але й пад гарадзенскія муры ўжо вялі кароль Ягайла й Скіргайла моцнае войска. Гарнізоны Верхняга й Ніжняга гарадзенскіх замкаў складаліся з жаўнераў Вялікага Княства й крыжакоў.

Вітаўт, разумеючы, што яны не ў стане доўга супраціўляцца ва ўмовах працяглай аблогі, пасьпяшаў з крыжакамі на дапамогу. На супрацьлеглым беразе Нёмана ён разьбіў свой стан і загадаў будаваць у тым месцы новы замак — «Новая Горадня». Але гэтая праца была дарэмная, бо неўзабаве кароль авалодаў Ніжнім замкам і пачаў штурм Верхняга. Тады Вітаўт і крыжакі вырашаюць працягнуць праз Нёман вялізны жалезны ланцуг, прымацаваўшы да яго віціны й лодкі. Атрымалася нешта накшталт наплаўнога маста, па якому можна было перавозіць з Верхняга замку параненых і хворых, дастаўляць туды новых жаўнераў і харчаваньне. І зноў намерам Вітаўта й крыжакоў не суджана было зьдзейсьніцца. Па загаду Ягайлы палякі пасеклі ў верхняй частцы Нёмана векавыя сосны й, зьвязаўшы іх, пусьцілі ўніз па Нёману. Мост быў зьнішчаны, а ў хуткім часе вымушаны быў здацца й гарнізон замку. Так драматычна скончылася абарона гарадзенскіх замкаў, якая працягвалася з 16 лютага па 8 красавіка.

Вітаўт, страціўшы ўсе свае уладаньні, адыйшоў на Жмудзь, дзе пачаў зьбіраць новыя сілы для барацьбы з каралём. Ужо восеньню 1390 года ён ідзе на Вільню з вялізным войскам, пры якім у ліку замежных гасьцей знаходзіўся граф Дэрбі, будучы гэрцаг Ланкастэрскі й ангельскі кароль Гэнрых IV. У выправе таксама ўдзельнічалі прускі магістр Конрад Цольнэр і інфлянцкі — Вэнэмар Бругэнаў. Пасьля ўзяцьця Трокаў гэтае войска авалодала віленскім Крывым замкам, але Верхні замак, гарнізон якога складалі пераважна палякі, здолеў выстаяць. Ужо тады выявіліся сімпатыі большасьці жыхароў княства да Вітаўта.

Справа дайшла да таго, што палякі й сам кароль Ягайла не давяралі ім абарону замкаў, баючыся іхняга пераходу на бок Вітаўта. Але ў сувязі з загадам і хваробамі апошні вымушаны быў вярнуцца ў Прусію.

Летам наступнага 1391 году Вітаўт з новым прускім магістрам Конрадам Валэнродам зноў стаяў пад сьценамі стольнай Вільні, але й на гэты раз ня здолеў авалодаць горадам. Тым ня меней, восеньню Вітаўт захапіў гарадзенскі Верхні замак. Гарнізон, аснову якога складалі ліцьвіны й русіны, перайшоў на бок князя. Згодна прускім крыніцам, Вітаўт у канцы 1391 — пачатку 1392 гг. зноў пачаў з дапамогай крыжакоў будаваць у ваколіцах Горадні новыя замкі. Адзін з іх называўсяўся New Garten (Новая Горадня) й павінен быў выкарыстоўвацца для абароны маста праз Нёман. Магчыма, што яго пачалі будаваць на тым самым месцы, дзе знаходзілася й першая новая Горадня. Другі замак меў назву Metenburg. Абодва замкі мелі моцныя й добра ўзброеныя гарнізоны крыжакоў.

Сам Вітаўт знаходзіўся звычайна ў замку Рытэрс Вэрдэр блізу Коўна. Менавіта сюды ў самым пачатку 1392 года прыехаў незвычайны пасол — мазавецкі князь Гэнрык. Фармальна мэтай ягонага візіту зьяўлялася імкненьне ўзяць шлюб з сястрой Вітаўта — Рымгалай, але на самай справе перад ім была пастаўлена Ягайлам няпростая задача сьхіліць Вітаўта да пагадненьня з каралём і Польшчай. Ад імя Ягайлы мазавецкі князь абяцаў Вітаўту вярхоўную ўладу ў ВКЛ, калі толькі той адмовіцца ад хаўрусу з ненавіснымі тэўтонцамі. Пасьля доўгіх перамоваў і напружанага роздуму Вітаўт даў згоду. Тады ж быў выпрацаваны плян змовы супраць крыжакоў, ажыцьцяўленьне якога здавалася няпростым з увагі на тое, што ў Прусіі знаходзіліся шматлікія закладнікі з Вялікага Княства Літоўскага. Трэба было прымаць у разьлік і знаходжаньне крыжацкіх гарнізонаў у краіне.

У чарговы раз Вітаўт вымушаны быў хітрыць перад вялікім магістрам. Яму ўдалося ўпрасіць Валэнрода дазволіць сваёй жонцы выехаць у Летуву мяркуючы, што яе знаходжаньне ў Вялікім Княстве паспрыяе росту яго, Вітаўта, аўтарытэту. Вітаўт здолеў выцягнуць з Прусіі таксама сваіх галоўных баяраў Івана Альгімунтавіча Гальшанскага й Юрыя Бельскага, а таксама іншых паноў, абгрунтаваўшы сваё рашэньне вялікімі выдаткамі на іх утрыманьне. Можна толькі зьдзіўляцца ўменьню й майстэрству, з якім Вітаўту ўдалося ўсыпіць пільнасьць вопытнага Конрада Валэнрода.

Нарэшце, ўсё было падрыхтавана для дзеяньня. Летам 1392 года ён раптоўна схапіў у замку Рытэрс Вэрдэр крыжакоў і нямецкіх купцоў, сам замак спаліў, і з вялікім палонам рушыў да замкаў Нойгартэн і Мэтэнбург, якія пасьля непрацяглага супраціўленьня здаліся. Дзе ні зьяўляўся Вітаўт, усюды яго з радасьцю сустракалі жыхары Княства. Даведаўшыся аб вяртаньні свайго брата на Бацькаўшчыну, польскі кароль Ягайла — Уладзіслаў у канцы ліпеня выехаў з Кракава ў Вялікае Княства. Браты сустрэліся 7 жніўня, на дзень сьв. Даміника ў мястэчку Востраў (цяпер Астроўля) непадалёку ад Ліды. Там і адбыліся першыя перамовы. Кароль пацьвердзіў усе ранейшыя набыткі й валоданьні князя Вітаўта. Вітаўт, са свайго боку, прысягнуў на вернасьць Ягайлу, абяцаў заўжды яго падтрымліваць, ніколі болей не пакідаць у бядзе Польшчу. Затым перамовы былі працягнуты ў Вільні, дзе прысутнічалі каралева Ядзьвіга, Скіргайла, шмат князёў і паноў Вялікага Княства Літоўскага.

У вялікакняскім палацы Вітаўт прысягнуў на вернасьць каралеве Ядзьвізе, абяцаў быць у дружбе й згодзе з князямі роду Гэдымінавічаў, у першую чаргу са Скіргайлам. Кароль затым прызнаў Вітаўта вялікім князем літоўскім, рускім і жамойцкім. Скіргайла, ў якасьці кампэнсацыі за страту ўлады ў ВКЛ, атрымаў у валоданьне Кіеўскае княства, а таксама Старыя Трокі й Крамянец. Закончыўся зьезд урачыстасьці ў касьцёле сьв. Станіслава, што знаходзіўся побач з вялікакняскай рэзідэнцыяй — Ніжнім замкам. У прысутнасьці віленскага біскупа Андрэя Вазілока браты працягнулі адзін другому рукі й яшчэ раз прысягнулі заўсёды прытрымлівацца дамоўленасьці. На заканчэньне цырымоніі на галаву Вітаўта была ўскладзена мітра Гэдыміна, а ў рукі дадзены агалены меч, жазло й княская пячатка з выявою «Пагоні». Так князь Вітаўт атрымаў права на вялікае княжаньне.

Астроўска-Віленскія пагадненьні ня толькі паставілі крэску пад крывавай братазабойчай вайной у Вялікім Княстве Літоўскім, якая пацягвалася з перапынкамі больш, чым дзесяць гадоў, але, што самае галоўнае, у выніку іх быў замацаваны ваенна-палітычны саюз ВКЛ і Польшчы ва ўсіх жыцьцёва важных для абедзьвух краін справах. Як паказалі далейшыя падзеі, гэтае замірэньне й саюз зьявіліся галоўнымі фактамі перамогі над кражакамі на Грунвальдзкім полі ў 1410 годзе.

**У. КАНАНОВІЧ,**
**г. Менск.**

# ЛІТАРАТУРА

Іосіф БРОДЗКІ

## Вершы пра зімовую кампанію 1980 года

«Паўдзённай сьпёкай у даліне Дагэстана...»
**М. Ю. Лермантаў.**

I.

Хуткасьць кулі пры нізкай тэмпэратуры
залежыць ад моцы мішэні, якую наскрозь прашые,
ад яе імкненьня сагрэцца ў мускулатуры
цела і ў хітрых спляценьнях шыі.
Камяні, як другое войска, ляжаць упавалку,
цені ў суглінак ціснуцца міма ўласнае волі,
а неба сыплецца ў вочы, як пякучая вапна,
і самалёт нябачны падобны да гадкай молі,
і спружынай з распоратага трыбуха матраца
ўзьнімаецца выбух, і гідлівая ад варонкі з лужай
ня можа кроў — як малако на пліце! — расьцякацца
й камянее скарынкай, апаленай чорнай стружкай...

II.

Пастух і Сейбіт з Поўначы гоніць статак
да мора, на Поўнач, распаўсюджвае холад.
Ясны марозны дзень у далінах Чучмэкістана.
Мэханічны слон задзірае хобат
перад чорнаю мышкай міны пад сьнегам—
горла рыгае снарадам, страхам і зьмерзлай
адзінай думкай, пазычанай у Магамэта:
каб гару праклятую зрушыць з месца!
Сьнег ляжыць на вяршынях... З нябеснага склада
шчодра сыплецца сухі паёк на прыбытак;
горы ня рухаюцца — і без усялякага блата
аддаюць сваю нерухомасьць трупам забітых.

III.

Сумныя, нудныя песьні славяніна
ў Азіі вечарам. Мерзлая й гнілая,
азызлая чалавечая сьвініна
ляжыць на падлозе караван-сарая.
Кізяк дыміць. Ад холаду ногі чорныя, як вуглі,
сьмярдзіць анучамі, потам, забытай лазьней.
Сны аднолькавыя — як шынялі.
І больш казённых набояў, чым успамінаў уласны...
А ў роце — ад частых «ур-ра!» асадак...
Слава тым, на каго суседкі плявалі,
хто рабілі аборты ў шасьцідзесятых
і Айчыну ад сораму ратавалі!

IV.

Што пачуеш ты ў гуле чмяля над вішняй?
А што — у гуле лятаючага апарата?..
Жыцьце зрабілася нават цяжэй, чым выжыць.
Цяжэй, чым будаваць бліндаж з лазы вінаграда.
Цяжэй, чым з мараў — хмарачосаў ансамблі...
Сьвет разьлятаецца — як ветрам падзьмула:
сем'і, прыватныя думкі, саклі...
Над руінамі чужога аула
ноч. Пад сябе спускае мазутам
нават жалеза, а месяц ад жаху,
што яго ўтопяць у боце разутым,
хаваецца ў хмарах, як у чалму Аллаха.

V.

Нікога няма — як на сьвята. Ніхто не марнуе паветра.
Прывезеная й кінутая, дзе можна,
ціша. І расьце, быццам цеста ў дзёжцы,
пустка. Калі б хоць на зорах існела
жыцьцё — прагучалі б апладысмэнты,
а на сцэну пабег бы артылерыст плюгавы...
Забойства — наіўная форма сьмерці.
Таўталёгія. Арыя папугая.
Справа тых, хто з-пад брыва наводзіць
ствол і муху жыцьця забівае зрокам,
справа моладзі, да каго кроў чужая даходзіць
толькі па чутках — альбо па траханьню цнотак..

VI.

Коўдру на лоб нацягні. Пракапай у трусе матраца
яму — ляжы ды слухай выцьцё сірэны.
Новы паўзе ледавік — ледавік ня з лёду, а з рабства.
Напаўзае на глёбус. І пад яго марэны
ўжо лягаюць дзяржавы, успаміны ды шлюшкі.
Нешта выдыхваючы, вылупаючы вочы з арбіты,
мы ператвараемся ў будучыя малюскі—
бо ніхто нас ня чуе, быццам мы трылябіты!..
З калідораў скразьняк, з квадратных вокнаў, са сьвідраванаў:
павярні выключальнік, скруціся клубком, небарача...
Пазванок — той шануе вечнасьць. Дурныя твае валасіны...
А ранкам ты станеш ракам — і не падняцца з карачак.

VII.

У стратасфэры ўсімі забытая сучка
брэша ў круглы ілюмінатар:
— Шарык! Шарык! Дзе ты? Я Жучка...
А Шарык — там, і на ім экватар
як ашыйнік. Палі, яры ды адхоны
белем сваім паўтараюць завеяў гулы.
Фарба сораму пайшла на сьцягі ды праклёны.
А ў замецены падпаветцы куры
гэтаксама дрыжаць, як народзец бязлікі,
і нясуць бязгрэшнага колеру яйкі...
Калі ёсьць нешта чорнае — толькі літары.
Як сьляды ацалелага цудам зайкі...

**1980 год.**

Пераклаў Алесь ЧОБАТ.



Фатаграфаваў Д. РАМАНЮК.

## Нямецка-беларускія шлюбы

Паводле інфармацыі радыёстанцыі «нямецкая хваля», сёлета ўстановамі адміністрацыі розных земляў Нямеччыны зарэгістравана больш за 20 нямецка-беларускіх шлюбаў. З гэтай самай інфармацыі вынікае, што пераважная большасьць шлюбаў створана тымі, хто прыехаў да Нямеччыны, атрымаўшы турыстычную візу, альбо па запрашэньню сваякоў.

Г. А.

## А вёска не сьпяшаецца

Прыкладна месяц прайшоў з таго часу, як афіцыйныя прафсаюзы распачалі кампанію па збору подпісаў аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савету. На Гарадзеншчыне паставілі свае подпісы звыш 20 тысячаў грамадзян.

Найбольшую актыўнасьць пакуль што выяўляюць гараджане, сяло пакуль што маўчыць. Але, на думку арганізатараў, калі скончацца на вёсцы восеньскія палявыя работы, то яна яшчэ скажа сваё слова.

Г. А.

## На мове эспэранта

Як стала вядома рэдакцыі газэты «Пагоня», славутая песьня беларускага паэта Новіка — Пеюна «Зорачкі» нядаўна перакладзена на мову эспэранта. Песьня «Зорачкі» — адна з самых любімых музычных твораў гарадзенскіх эспэрантыстаў.

На жаль, аўтар перакладу пакуль што невядомы. Але, на думку тых жа эспэрантыстаў, пераклад зьдзейсьніў сам паэт.

Дарэчы, выкананьнем гэтай песьні будзе адкрыта міжнародная канфэрэнцыя эспэрантыстаў, якая неўзабаве пачне сваю працу ў Горадні.

Г. АСТРОЎСКІ.

